ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Травень 2012

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"

Мова зваротаў у 2011 годзе
Адсотак
расейскамоўных зваротаў




Менск









## Ігар Случак:
## Беларуская мова стала палітычным маркерам

**А таксама ў нумары:**

**Случак: Спадзяемся, што нашы прапановы зацвердзяць у 2013 г.**

**Гамяльчук Ігар Случак прапануе дэпутатам змены ў закон аб абароне правоў спажыўцоў**

**"ТУТ АБСЛУГОЎВАЮЦЬ і ПА-БЕЛАРУСКУ!"**

# Ігар Случак: Беларуская мова стала палітычным маркерам

**Гутарыў Аляксей Знаткевіч, Радыё "Свабода"**

***Грамадзянская ініцыятыва «Справаводзтва па-беларуску» распачала новую кампанію папулярызацыі беларускай мовы ў галіне абслугоўваньня і рэкламы — «Тут абслугоўваюць і па-беларуску». Яны прапануюць вешаць налепкі на месцы, дзе кліентаў абслугоўваюць на беларускай мове.***

**Ігар Случак — лідэр грамадзянскай ініцыятывы «Справаводзтва па-беларуску» — у гасьцях «Начной Свабоды» з Аляксеем Знаткевічам:**

*Случак:* Ідэю мне падказаў сябра. Ён жыве у Квэбэку. І там выкарыстоўваюць падобныя налепкі. Адрозьненьне ў тым, што ў нас — лягатып кампаніі, а там — лілея, сымбаль Квэбэку. Калі яго ўбачыш, ведаеш, што тут абслугоўваюць па-французску.

Чалавек бачыць налепку, ведае, што яго зразумеюць. І ён бяз комплексаў спакойна прыходзіць і размаўляе на сваёй мове. Так ствараецца беларуская прастора. Калі будзе хоць дзесяць такіх налепак, людзі будуць бачыць, што мова жыве, як усе іншыя мовы. Бывае, сам прыходжу, пытаюся па-расейску, а мне адказваюць па-беларуску, тады становіцца сорамна, што сам першы не пачаў. А калі пабачу налепку, то сам пачну першы.

*Знаткевіч:* У дзяржаўныя ўстановы будзеце зьвяртацца?

*Случак:* Мы не падзяляем на дзяржаўныя ці прыватныя. Мы зьвярталіся ў «Белсаюздрук», але ім трэба дазвол начальства. Нашая мэта ня проста заляпіць горад налепкамі, а дамовіцца. Каб усё было афіцыйна, каб людзі хацелі яе павесіць. І каб маглі рабіць тое, што на налепцы напісана — абслугоўваць па-беларуску. Нашмат прасьцей дамаўляцца з прыватнымі.

*Знаткевіч:* Ці ўзьнікалі складанасьці і неразуменьне з боку тых, каго вы хацелі заахвоціць?

*Случак:* На жаль, беларуская мова стала палітычным маркерам. Размаўляць па-беларуску ў нас значыць адносіцца да таго ці да іншага палітычнага лягеру. Складанасьці ёсьць. Пакрысе, як з тым законам «Аб зваротах грамадзянаў», мы дзяўблі, і яго прынялі. І цяпер усе чыноўнікі паставілі беларускую раскладку, даюць беларускія адказы. Цяпер беларускамоўны можа спакойна напісаць любую паперу па-беларуску, і па-беларуску атрымаць адказ. Норма.






Праблема, што ў нас моўныя правы заканадаўча не замацаваныя. Калі б сапраўды існавала дзьвюхмоўе, была б іншая сытуацыя. Трэба заканадаўча замацоўваць роўнасьць моваў.

*Знаткевіч:* Вы зьбіраецеся удзельнічаць у парлямэнцкіх выбарах? Чаму? Можа, нярварта мяшаць мову і палітыку?

*Случак:* Я думаю, трэба выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб размаўляць аб праблеме. Ня толькі размаўляць, але і неяк вырашаць. Каб паказаць, што беларуская мова цікавая, і ёй можна карыстацца ва ўсіх сфэрах жыцьця. Так, мова палітызаваная. Але цяпер яна больш становіцца менавіта мовай. Чаму? У нас шмат кампаніяў, якія папулярызуюць беларускую мову. Тая самая «Будзьма». Шмат людзей, ад якіх я не чакаў, пачынаюць размаўляць па-беларуску. Яны выкарыстоўваюць мову не як палітыку, а як культуру, як нешта асабістае.

*Знаткевіч:* Шмат хто кажа, што няма сэнсу браць удзел у выбарах...

*Случак:* Тыя патрабаваньні, якія выстаўляюць нашыя лідэры, слушныя. Напрыклад, вызваленьне палітвязьняў. Але браць уладу за горла і казаць, каб палітвязьняў рэабілітавалі, гэта ўжо яны перагібаюць палку. Яны яшчэ кажуць, каб ва ўсіх камісіях былі прадстаўнікі партыяў. Але ў Беларусі вялікая колькасьць камісіяў. У нас няма столькі людзей, каб паставіць іх на кожны участак. І навошта выстаўляць такія патрабаваньні, што нават пры жаданьні ўладаў мы ня зможам іх выкарыстаць?



*Знаткевіч:* Дык навошта балятавацца? Ці вы верыце, што можаце прайсьці?

*Случак:* Галоўнае, выбары — гэта магчымасьць размаўляць з выбарцамі аб праблемах. Будзе час на радыё, тэлебачаньні, нават у газэтах можна будзе надрукавацца. Нават пры самых сумленных выбарах ісьці з моўным пытаньнем ў Гомелі, самым русыфікаваным рэгіёне, гэта ўжо цяжка. Але я лічу, трэба ісьці.

Па апытаньнях беларусы не падтрымліваюць ідэю байкоту. Беларусы, 50-52% вераць, што ўсё павінна адбывацца праз парлямэнцкія выбары. Людзям прасьцей успрымаць чалавека, які ім хоча нешта распавесьці праз афіцыйныя сродкі. Падтрымка ўладаў невялікая, але і падтрымка апазыцыі невялікая. Трэба крыху апусьціцца да ўзроўню людзей і казаць тое, што яны хочуць, і так, як яны хочуць. Усё ж такі нельга адрывацца ад людзей. Я проста хачу, каб людзі разумелі, што я хачу данесьці.

# Гамяльчук Ігар Случак прапануе дэпутатам змены ў закон аб абароне правоў спажыўцоў

***Жыхар Гомеля, каардынатар кампаніі «Справаводства па-беларуску!» Ігар Случак прапаноўвае дэпутатам парламенту ўнесці змены ў закон аб абароне правоў спажыўцоў з мэтай абараніць беларускамоўнае насельніцтва.***

Актывіст прапануе ўнесці змены ў артыкулы 7 і 8 дадзенага закону. У прыватнасці, артыкул 7 «Інфармацыя аб таварах (працах, паслугах) каардынатар кампаніі прапануе выкласці ў наступнай рэдакцыі: «Інфармацыя, прадугледжаная пунктамі 1-8 дадзенага артыкулу, на беларускай і рускай мовах разборлівым шрыфтам даводзіцца да спажыўца ў дакументацыі, якая служыць дадаткам да тавараў (паслуг, прац) на спажывецкай тары (упакоўцы), цэтліках ці іншым спосабам, прынятым для асобных тавараў. Інфармацыя, якая паведамляецца на замежнай мове, лічыцца не прадстаўленай, за выключэннем выпадкаў, калі яна была паведамлена на замежнай мове па жаданню спажыўца».

Артыкул 8 «Інфармацыя аб вытворцах (выканаўцах, прадаўцах) Ігар Случак прапануе змяніць так: «Інфармацыя, прадугледжаная пунктамі 1 і 2 сапраўднага артыкулу, даводзіцца да спажыўца на беларускай і рускай мовах».

Каардынатар кампаніі лічыць, што такія змены ў закон – фізічна і жыццёва неабходныя, таму што ў выпадку, калі чалавек не валодае, ці дрэнна валодае рускай мовай, ён можа няправільна зразумець інструкцыю – ці да лекаў, ці да складаных бытавых прыладаў, што можа прывесці да трагічных вынікаў.

*http://spring96.org/be/news/48424*




# Случак: Спадзяемся, што нашы прапановы зацвердзяць у 2013 г.

***Грамадзянская кампанія “Справаводства па-беларуску” звярнулася з персанальным зваротам да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і ў адпаведныя міністрэствы з прапановай унесці на разгляд парламента і падтрымаць змены ў “Занон аб абароне спажыўцоў”, а таксама закона “Аб мовах” і іншыя законы, якімі ўрэгуляваны адносіны, звязаныя з ужываннем дзяржаўных моў.***

Кампанія дамагаецца больш шырокага ўжывання беларускай мову ў маркіраванні тавараў і інфармаванні аб іх якасці. Стваральнік грамадзянскай кампаніі “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак паведаміў, што гэта ўжо другі падобны зварот:

- Трэба каб гэтыя папраўкі былі ўнесены ў праект плана на 2013 год. Але я, як грамадзянін, не магу гэта зрабіць сам напрамую. Гэта павінны зрабіць альбо зацікаўленыя асобы, альбо дэпутаты. Таму, каб было больш шансаў на тое, каб гэтыя папраўкі былі ўнесены ў план на 2013 год, я звярнуўся да ўсіх дэпутатаў і членаў Савета Рэспублікі, а таксама да некаторых міністэрстваў – да міністэрства гандлю, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, інфармацыі і аховы здароўя.

Гэтыя прапановы ўжо прайшлі праверку ў Нацыянальным цэнтры заканадаўства і прававых даследванняў Рэспублікі Беларусь. Прававы аналіз паказаў, што сапраўды патрабуюць карэктыроўкі артыкулы 7-ы і 8-ы Закона Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня 2002 года “Аб абароне правоў спажыўцоў”. Але для таго, каб прапановы былі ўнесены на разгляд парламента, неабходна ўнясенне іх у план падрыхтоўкі законапраектаў. Ігар Случак спадзяецца, што ў 2013 годзе гэтыя і іншыя змены ў заканадаўстве, датычныя роўнага ўжывання дзвюх дзяржаўных моў, будуць прынятыя.

*Васіль Кроква, Радыё Рацыя.*

# "ТУТ АБСЛУГОЎВАЮЦЬ і ПА-БЕЛАРУСКУ!"

***Грамадзянская ініцыятыва "Справаводства па-беларуску!" распачала новую кампанію па папулярызацыі беларускай мовы ў галіне абслугоўвання і рэкламы – "Тут абслугоўваюць і па-беларуску!". Была распрацаваная спецыяльная налепка, што вытрымоўвае і неспрыяльнае надвор'е, якую жадаючыя могуць наляпіць на сваю краму, шапік ці на дзверы працоўнага месца.***

"Гэту ідэю падказаў мне беларус, прыхільнік "Справаводства па-беларуску!" з Канады, што пражывае ў Квэбэку. Гэта франкамоўная правінцыя, але ўсё ж там сітуацыя падобна да беларускай – па змоўчванні выкарыстоўваецца англійская мова. Для таго, каб тыя, каму карыстацца французкай зручней адчувалі сябе больш упэўнена, на ўстановак абслугоўвання таксама налеплiваюць адпаведныя налепкі – "Тут абслугоўваюць і па-францужку". У нас тая ж самая мэта – дапамагчы людзям – і пакупнікам і прадаўцам пераадолець моўны бар'ер, каб беларускамоўныя без стрэсу маглі ў побытавых справах выкарыстоўваць беларускую мову. Наша мэта не заляпіць усё гэтымі налепкамі, бо гэта дыскрыдэтуе саму ідэю, а ў кожным выпадку дамаўляцца з уладальнікам аб магчымасці размяшчэння налепкі. Такім чынам можна будзе пазбегнуць нязручнасцей і адваротнай рэакцыі, а мы будзем упэўнены, што дакладна ў гэтым месцы па-беларуску беларуса абслужыць здолеюць", - распавёў аўтар ідэі ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!" Ігар Случак.

Тыя, хто хоча далучыцца да кампаніі "Тут абслугоўваюць і па-беларуску!" у іншых гарадах можа дасылаць замову на налепкі ў прыватныя паведамленні карыстача http://vk.com/belaruski_spravavod . Так жа можна і спампаваць макет налепкі.




Гарамадзянская ініцыятыва "Справаводства па-беларуску!", сябра Асамблеі НДА (Літва) займаецца лабіраванннем змен у заканадаўстве, накіраваных на падвышэнне статуса і заканадаўчай абароны беларускай мовы. У 2012 годзе прыярытэтнымі для кампаніі з'яўляюцца накірункі забеспячэнне беларускай мовы ў сферы рэкламы, камунікацыі, культуры і адпачынку.

*Прэс-рэліз грмадзянскай ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!"*





Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" *"Справаводства па-Беларуску!"*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*
Галоўны дызайнер: *Аляксей Венецыянаў*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя "Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/spravavodstva_pa_belarusku
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** **gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA